


# DISTRICTUS
# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 7 (52) ЛІСТАПАД 2006 г.


# БУДЫНКУ БРАСЛАЎСКАЙ ЛЯЧЭБНІЦЫ 100 ГАДОЎ

## 1906 - 2006

**У нумары:**



У кожным горадзе, мястэчку, абавязкова ёсць будынкі, якім належыць асобая роля ў мінулым паселішча. У Браславе адным з такіх будынкаў з'яўляецца былая сельская лячэбніца. Мясцовыя людзі звыкла казалі: "чырвоная лячэбніца" ці "нарбутаўская".

Лячэбніца была ўрачыста адкрыта 24 лістапада 1906 г. дзякуючы матэрыялам Каўнаскга архіва, даследванню тагачаснага перыядычнага друку, удалося аднавіць гісторыю ўзвядзення лячэбніцы, у пачатку XX ст. адной з лепшых ва ўсёй губерні. Найбольш поўна яна апублікавана ў IV-м выпуску зборніка "Браслаўскія сшыткі", прысвечанаму Станіславу Нарбуту (2000 г.).

Адразу пасля ўзвядзення будынак стаў адметнасцю мястэчка. Яго вылучала прыгожая архітэктура. Камень, цэгла, дах з бляхі – з такіх матэрыялаў у Браславе былі збудаваны толькі храмы. І па памерах на дзесяцігоддзі лячэбніца заставалася адным з вялізных будынкаў паселішча. Гэта быў першы будынак забяспечаны водаправодам (вада паступала са студні з дапамогай шведскага насоса). Першыя 20 гадоў гісторыі будынка цесна звязаны з асобай Ст.Нарбута. Не толькі лячэбніцу, але і вуліцу побач яшчэ пры жыцці знакамітага лекара называлі Нарбутаўскай. Нават нарадзілася традыцыя, што лячэбніцу ўзвёў Нарбут за свае грошы.

(заканчэнне на с.2)




**С.Нарбут і будынак лячэбніцы. Марка з канверта да 150 годдзя лекара. 2003 г. Мастак В.Сташчанюк**



**Урачыстае адкрыццё лячэбніцы 24 лістапада 1906 г.**



**Нарбутаўская лячэбніцы. Фрагмент. Мастак Уладзімір Кандрусевіч. 2001 г.**

Шмат за стагоддзе пабачыў гэты будынак: енкі і стогны жаўнераў у час І-й сусветнай, мітусню чыноўніцкіх кабінетаў у 1920-я гады, калі будынак забралі пад свае патрэбы польская адміністрацыя, вяртанне сюды польскіх лекараў, на змену якім пазней прыйшоў савецкі медперсанал. Пасля Ст.Нарбута тут працавала шмат добрых лекараў: І.Шантыр, М.Амельяновіч, Ф.Леўша.

У пасляваенны час будынак пашыралі, але патрэба ў новай лячэбніцы адчувалася ўсё больш востра. У 1994 г. старая лячэбніца апусцела – раённая бальніца справіла наваселле ў новым комплексе. У лячэбніцы вырашылі размясціць бібліятэку. Трэба сказаць, нядрэнны быў бы варыянт. Існавалі планы зрабіць у адным з пакояў мемарыяльны куток Станіслава Нарбута. Аднак грошы на рамонт і прыстасаванне будынка пад бібліятэку ўлады не знайшлі. А тым часам ніхто не змог абараніць лячэбніцу ад варварства і дзікунства – раскрадалі што маглі, нават камень з падмуркаў, памяшканні сталі "клубам" бамжоў і выпівох. Гэты перыяд, напэўна самы жахлівы ў гісторыі будынка, на шчасце быў адносна кароткім. Неўзабаве былая лячэбніца перайшла ва ўласнасць Полацка-Глыбоцкай праваслаўнай епархіі.

Цяпер у будынку дзейнічае скіт, адчынена царква, штодня адбываюцца набажэнствы. Яшчэ ў час рамонту будынак наведалі ўнучкі Ст.Нарбута. Яны былі рады новаму жыццю лячэбніцы. Яніна Гелерт з Варшавы сказала словы, якія цяпер часта паўтараюць: "Раней тут лячылі цела, цяпер будуць лячыць душу".

Ад даўніх часоў існавалі вераванні, што душа можа быць не толькі ў чалавека. Ёй надзялялі асобныя з'явы прыроды, рэчы зробленыя рукамі чалавека. Калі б гэта было так, то "нарбутаўская лячэбніца" з'яўляецца будынкам са шчырай, адкрытай да ўсяго добрага душой, якая імкнецца да неба і святла.



**Медыцынскі персанал лячэбніцы 1930-х гадоў**




Да 100-гадовага юбілею будынка Браслаўскай лячэбніцы Полацка-Глыбоцкая епархія выпусціла брашуру "Браслав и Свято-Пантелеймонов скит. Всевидящее Око Божественного Промысла." (Полацк. Выдавец А.Суднік). Выданне мае вельмі якасны друк, багата аздоблена каляровымі ілюстрацыямі. Яно складаецца з наступных раздзелаў: "Старонкі гісторыі Браслава", "Доктар Станіслаў Нарбут", "Нарбутаўская лячэбніца", "Протаірэй Уладзімір Васілеўскі", "Стварэнне Свята-Панцеляймонавага скіта". Тэкст брашуры напісала інакіня Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра Алена Ключынская. Пры гэтым яна выкарыстала матэрыялы, прадстаўленыя музеем. Музей перадаў таксама для выдання значную колькасць гістарычнага ілюстрацыйнага матэрыялу.

У сваю чаргу выкарыстаем тэкст брашуры, каб распавесці на старонках "Павета" аб арганізацыі ў будынку былой лячэбніцы праваслаўнага скіта.


**Святы Панцелеймон. Ілюстрацыя з брашуры**

Адно з вызначэнняў слова "скіт" – невялікі манастыр. Нябеснымі апекунамі абіцелі лічацца Святы Панцеляймон і праподобная Ефрасіння Полацкая. Браслаўскі скіт лічыцца філіяй Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, што месціцца ў Полацку. Пакутнік Панцеляймон у праваслаўным пантэоне вядомы як лекар, апякун хворых.

Скіт паўстаў па ініцыятыве архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія, які напрыканцы 90-х гадоў XX ст. наведаў Браслаў. Улады перадалі будынак лячэбніцы праваслаўнай царкве. За паўтара года былі праведзены рамонтныя працы, якімі кіраваў прараб Фёдар Мажэйка. У будынку размясціліся: дамавая царква ў імя Св.Панцеляймона, трапезная для манашак і для гасцей, кухня, келлі, архіерэйскія пакоі, службовы кабінет, падсобныя памяшканні. З Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Браслаў прыбыло 6 сясцёр. Першая служба ў абіцелі праведзена ў сакавіку 2006 года.

# МЕДЫЦЫНСКІЯ ЎСТАНОВЫ У БРАСЛАВЕ У ЧАСЫ АКУПАЦЫІ (1941-44)

Адным з цікавых эпізодаў гісторыі ІІ-й сусветнай вайны з"яўляецца аналіз побыту і жыццядзейнасці людзей на акупіраваных тэрыторыях. Дзякуючы дакументам, якія захоўваюцца ў Віцебскім дзяржаўным архіве (фонд 2848), матэрыялам перад- і пасляваеннага перыядычнага друку, можна прыадчыніць старонкі гісторыі медыцынскай справы ваенных часоў.

З устанаўленнем у Браславе акупацыйнай улады ў 1941 г. праз некаторы час паўсталі і пачалі працаваць медыцынскія ўстановы. Пры раённай управе, якая кантралявала многія жыццёва-пабытовыя стасункі і, якой дарэчы кіраваў доктар-ветэрынар Ральён Кавальскі, існаваў санітарны аддзел. Задачы, якія стаялі перад аддзелам былі простыя: найперш, кантроль за санітарна-эпідэміялагічнай сітуацыяй, па-другое, кіраўніцтва працай лячэбніцы, амбулаторыі і дзіцячага дома, які быў створаны ў 1940 г. савецкімі ўладамі. Загадваць санітарным аддзелам быў прызначаны Анатоль Фірсаў. Магчыма на яго прызначэнне паўплывала тое, што яго жонка Яўгенія была з сям'і этнічных немцаў. У штаце аддзела было 4 чалавекі. Так, па дадзеных на восень 1942 г. акрамя загадчыка аддзела згадваюцца дэзінфектары Канстанцін Хлябовіч і Язэп Дарэвіч. Справаводства вяла Галіна Эйсмант. На жаль, пакуль няма ніякіх падрабязных звестак пра будзенныя справы санітарнага аддзела часоў акупацыі.

Браслаўская лячэбніца ў гэтыя часы мясцілася ў "нарбутаўскай" пабудове. У 1942 г. штат (разам з тэхперсаналам) 23 чалавекі. Галоўным урачом быў Максім Цімафеевіч Амельяновіч. Гэты ўрач – неардынарная асоба. Вядомы некаторыя факты яго біяграфіі. Ён нарадзіўся ў 1900 г. Скончыў Віленскі універсітэт. Да прызначэння ў 1937 г. на пасаду ў Браславе працаваў у суседняй Дзісне. Негледзячы, што ён працаваў пры "паляках", у 1939 г. ён быў абраны на знакаміты Народны сход у Беластоку у час аб'яднання Заходняй і Усходняй частак Беларусі. З прыходам немцаў ён спакойна працягваў лячыць хворых і не паехаў углыб краіны ў эвакуацыю. Адразу пасля вайны яго не рэпрэсіравалі. Аднак, што было далей – невядома.

Разам з М.Амельяновічам увесь акупацыйны перыяд адпрацаваў яшчэ адзін слынны доктар – Язэп Шантыр. Наяўнасць у штаце ажно 4 сясцёр-акушэрак відавочна ўказвала на сур'ёзны падыход да нараджэння дзяцей. Астатнія пасады займалі санітаркі, кухаркі, прачкі і г.д.

Быў у Браславе і яшчэ адзін доктар – Вільгельм Барэцкі. Ён загадваў амбулаторыяй. З ім працавалі фельчар Антон Кручкоўскі, акушэрка Валянціна Харчанка і медсястра Рэгіна Рачкевіч.

Яшчэ адну цікавую дэталь удалося адшукаць. У красавіку 1943 г. сярод працаўнікоў амбулаторыі згадваецца прозвішча Язэпа Трубілы, фельчара, які пачынаў яшчэ ў 1994 г. фельчарам у Дрысвятах. З 1918 г. ён быў фельчарам у Браславе, г.зн. калегай славутага лекара С.Нарбута.

Увогуле, акрамя Браслава ёсць звесткі пра існаванне амбулаторый у Відзах, Слабодцы, Опсе, Друі, акушэрскіх пунктаў у Плюсах, Казянах. Аптэк было таксама багата – у Браславе, Слабодцы, Друі, Відзах, Казянах, Дрысвятах, Опсе.

Некалькі слоў пра дзіцячы дом, які, як вядома, у часы эвакуацыі на пачатку вайны не паспелі вывезці ў тыл. Дакладна вядома, што гэта ўстанова падпарадкоўвалася санітарнаму аддзелу грамадзянскай павятовай управы на акупаванай тэрыторыі. Яна атрымлівала фінансаванне з боку нямецкіх уладаў. Па стану на 1943 г. вядомы дакладны спіс працаўнікоў дзіцячага дома. Налічвалася 15 чалавек, якія яго абслугоўвалі. Загадваў ім урач Пётра Гайдзель, за дзецьмі наглядалі 6 няняў, сярод іх і знакамітая Анастасія Жукава. Хутчэй за ўсё , у пачатку 1944 г. існаванне дзіцячага дома ўскладнілася. Што было з ім пад час вызваленчых баёў улетку 1944-га невядома. Сярод дакументаў не трапляецца ніводнай згадкі пра здзекі над дзецьмі нямецкіх ваенных. Таму, напэўна наперадзе разгадкі шматлікіх момантаў перыяду нямецкай акупацыі, у тым ліку і па медыцынскай тэме.


Даведка
Дадзена гэта Сп. [illegible]
нарадж. у 1880 г., жых. вёс. [illegible]
у тым, што у яго/яе/ [illegible]
[illegible]
Да цяжкай фізычнай працы няздольны/ая/ [illegible]
[illegible] 85% [illegible]
Даведка выдана для прадстаўлення адпаведным уладам.
Браслаў, дня 12.II 1944
Павятовы Лекар

**Медыцынская даведка часоў акупацыйнага перыяду, выдадзеная жыхару в.Янулі Опсаўскай гміны Ю.Гібоўскаму. У ёй пазначана хвароба і вызваленне ад цяжкай фізічнай працы. Падпісана браслаўскім лекарам І.Шантырам. На адваротным баку маецца рэзалюцыя фельчара Опсаўскай амбулаторыі Навіцкага.**

*28-29 кастрычніка адбылася навуковая канферэнцыя, прымеркаваная да 450 гадовага юбілею выдатнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, славутага нараджэнца віцебскай зямлі канцлера Льва Сапегі (1557-1633). Яе арганізавала Віцебская філія грамадскага аб'яднання "Фонд імя Льва Сапегі". У першы дзень канферэнцыя працавала ў мястэчку Астроўна (сучасны Бешанковіцкі раён), дзе нарадзіўся Л.Сапега. удзельнікамі сустрэчы былі навукоўцы шэрагу ўніверсітэтаў краіны, а таксама краязнаўцы тых рэгіёнаў, якія звязаны з імем выдатнага гістарычнага дзеяча, ці яго родам. Матэрыялы канферэнцыі плануецца выдаць у бліжэйшы час. Прапануем увазе чытача скарочаны варыянт выступлення прадстаўніка Браслаўшчыны Кастуся Шыдлоўскага.*

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*не разбіць,*
*не спыніць,*
*не стрымаць!!!*

*Максім Багдановіч*



**Герб «Пагоня» з тытульнага ліста Статута ВКЛ 1588 г., падрыхтаванага і выдадзенага пры актыўным удзеле Л.Сапегі**

# РОД САПЕГАЎ НА БРАСЛАЎШЧЫНЕ

Гістарычны Браслаўскі павет Віленскага ваяводства, тэрыторыя якога фарміравалася на працягу XV – XVI стст. і была аформлена адміністрацыйнай рэформай 1565 – 1566 гадоў, займае адметнае месца ў гісторыі славутага роду Сапегаў. У Браслаўскім павеце склаліся дзве вялізныя сапегаўскія латыфундыі, роля якіх у падмурку заможнасці роду даволі істотная. На тэрыторыі сваіх браслаўскіх уладанняў Сапегі ўзвялі два замкі, заснавалі мястэчка Іказнь і горад з Магдэбургскім правам Сапежын, фундавалі цэлы шэраг храмаў. Засталася багатая дакументальная спадчына дзейнасці Сапегаў у рэгіёне, якая патрабуе больш дэтальнага вывучэння і аналізу.



**Казімір Леў Сапега, фундатар Друйскага бернардзінскага кляштара**



**Кацярына, жонка К.Л.Сапегі. Копія XIX ст. з арыгінала XVIII ст. Фота Я.Булгака. 1929 г.**

Пачатак браслаўскім уладанням роду быў пакладзены Янам (Іванам) Сапегам. Ян Сапега (каля 1450 – 1517 гг.) з'яўляўся адным з чатырох сыноў пачынальніка роду Сямёна, выхадца з полацкіх баяр, вялікакняжацкага пісара. Вядомы як відны дыпламат і важная службовая асоба дзяржавы. У тым ліку выконваў функцыі асабістага сакратара княгіні Алены, пазней насіў тытул яе канцлера. Алена, дачка Маскоўскага князя Івана III і Соф'і Палеолаг, стала жонкай вялікага князя Літоўскага Аляксандра Ягелончыка ў 1495 г. Лёс яе аказаўся цесна звязаны з Браславам. Княгіня з мужам наведала горад у 1500 г. У 1501 г. Алена атрымала Браслаў і некаторыя навакольныя вёскі ў падарунак. Вялікая княгіня мела пад Браславам летнюю рэзідэнцыю, у замку заснавала жаночы манастыр. У Браславе Алена памірае 24.01.1513 г. (падрабязней пра гэта: Памяць. Браслаўскі раён. Мн., 1998. С.102-110). Браслаўскае наваколле прыцягнула ўвагу сакратара Алены Яна Сапегі. Гэта тэрыторыя мела даволі важнае стратэгічнае значэнне, прыкрываючы Вільню з паўночнага боку. Апрача таго, тут стала складвацца адміністрацыйная адзінка, цесна звязаная з вялікакняжацкім дваром, якую М.Любаўскі адносіў да ліку важнейшых акруг княства (М.К.Любавский. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута. М., 1892.). Дарэчы, з 1502 г. Я.Сапега стаў намеснікам-дзяржаўцам браслаўскай акругі. Не выключана, што гэтаму прызна-чэнню паспрыяла Алена. На тэрыторыі акругі Я.Сапега стаў набываць і атрымліваць у падару-нак землі і падданых. Каля возера Іказнь у 1499 г. за 200 коп грошай шырокіх



**Друйскі касцёл св.Троіцы бернардзінскага кляштара. Фота Я.Булгака. 1929 г.**

набываецца першы маёнтак, які пазней пастаянна пашыраўся (падрабязней пра гэта: O.Hedemann. Historija powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930; Памяць. Браслаўскі раён. Мн., 1998.). Шэраг актаў на браслаўскія ўладанні Сапегаў апублікаваны ў выданні: "Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединённых с ними владений (1387 – 1710 гг.)" (Вильно, 1858.). Неўзабаве абшар сапегаўскіх уладанняў значна пашырыўся і ахапіліваў землі, якія цяпер знаходзяцца ў складзе Браслаўскага, Мёрскага і Шаркаўшчынскага раёнаў. Іх цэнтрам стала мястэчка Іказнь, якое было заснавана паводле граматы Аляксандра Ягелончыка ад 26 сакавіка 1504 г. Вялікі князь і кароль дазваляў Я.Сапегу заснаваць паселішча, у далейшым магчыма горад, з назвай паводле ўласнага жадання і замак. І замак, і мястэчка ўзніклі яшчэ пры жыцці Я.Сапегі. А.Гваніні ў сваёй "Хроніцы" адзначыў: "Іказня. Замак мураваны і места драўлянае над ракой той жа назвы..." (A.Gwagninus. Kronika Sarmaceye Europejskiej... Kraków. 1611. Ks.2. Cz.1. S.571.). Мястэчка Іказнь не стала значным гандлёвым і рамесным цэнтрам, не вылучалася багаццем і памерамі (падрабязней пра мястэчка: O.Hedemann. Historia powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.387-390; Памяць. Браслаўскі раён. Мн., 1998. С.680-681.; Павет. Выданне краязнаўцаў Браслаўшчыны. № 11(36), 2004.). Замак быў узведзены на востраве, быў досыць цікавым і значным абарончым збудаваннем, меў важнае значэнне ў войнах XVI – XVII стст. (падрабязней пра замак: М.Ткачоў. Замкі і людзі. Мн., 1991. С.105-106.).

Даволі цікавым з'яўляецца пытанне аб узвядзенні ў Іказні храма. Яшчэ ў 1499 г. Я.Сапега атрымаў дазвол вялікага князя Аляксандра адкрыць у Браславе карчму, а даходы з яе накіраваць на "церков божию Светого Духа на Икажно" (Акты Литовско-Русского государства. Вып.1. М., 1900. С.90-91.). На ўзвядзенне храма, у якім маглі маліцца і праваслаўныя, і католікі, Я.Сапега, прыхільнік Фларэнційскай уніі, атрымаў дазвол папы рымскага Аляксандра IV. Не выключана, што храм гэты быў уніяцкім (O.Hedemann. Historija powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.388; T.Krahel. 400 lat kościoła w Nowym Pohoście. 1593-1993. Białystok. 1993. S.7.).

Сын Яна – Павел Сапега (1490 – 1579 гг.), пераняў браслаўскія ўладанні. Ён быў звязаны з Браслаўшчынай і тым, што з 1517 па 1544 гады выконваў функцыі браслаўскага дзяржаўцы. Пры ім іказненская латыфундыя стала драбіцца, часткова пераходзіць у іншыя рукі. Гэты працэс перапыніў Леў Сапега. Прычым ён не толькі зноў аб'яднаў землі іказненскай латыфундыі, але і зрабіў новыя набыткі. Канцлер ВКЛ звярнуў увагу на паўночную частку павета, якая датыкалася Заходняй Дзвіны, важнейшай гандлёвай артэрыі. Тут у XIV ст. існаваў гандлёвы горад Друя з замкам. Можна меркаваць, што Л.Сапега ацаніў стратэгічную значнасць прыдзвінскіх абшараў у наваколлі Друі. У 1600 і 1611 гадах ён набывае частку Друі, Друйскага маёнтка, а таксама маёнткі, размешчаныя ўсходней. Утварылася новая латыфундыя са значным эканамічным патэнцыялам. У XVIII ст. яна вядома пад назвай Друйскае графства. Напрыканцы гэтага стагоддзя графства налічвала 1225 дымоў, 10110 жыхароў (падрабязней пра гэта: O.Hedemann. Historija powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.345.; Памяць. Браслаўскі раён. Мн., 1998. С.151-158.). Аднак перад тым Л.Сапега выкупляе ў сыноў П.Сапегі часткі іх іказненскага маёнтка і клапоціцца, каб у двух важных паселішчах латыфундыі – Іказні і Пагосце, паўсталі касцёлы. З гэтай мэтай ім былі выдадзены ў 1593 і 1596 гадах фундацыйныя граматы (тэкст граматы 1593 г. змешчаны ў кнізе "Памяць". С.92-93.).

Сын канцлера Ян Станіслаў Сапега (1589 – 1635 гг.) у пэўныя перыяды жыў у Іказні, але пры ім цэнтр уладанняў роду на Браслаўшчыне пераносіцца ў Друю. 8 жніўня 1618 г. Я.Сапега падпісвае ў іказненскім замку прывілей аб заснаванні побач з Друяй новага горада пад назвай Сапежын. Горад атрымаў Магдэбургскае права і герб, на якім "*віціна з распушчаным ветразем*". Рамеснікі, гандляры атрымлівалі істотныя прывілеі. Я.Сапега паклапаціўся аб правядзенні ў горадзе кірмашоў, узвядзенні замка, ратушы з гадзіннікам і г.д. (поўны тэкст прывілея: А.Сапунов, В.Друцкий-Любецкий. Материалы по истории и географии Дисненского и Виленского уездов Виленской губернии. Витебск, 1891. приложения. С.40-45.; прывілеі змешчаны таксама ў кнізе "Памяць". С.93-95.). Сапежын не стаў самастойным горадам, а функцыянаваў як частка Друі, якая неўзабаве ўся належала Сапегам. Друя-Сапежын была важнейшым эканамічным, культурным, рэлігійным цэнтрам Браслаўшчыны, сярэднім па памерах горадам ВКЛ (падрабязней пра горад: O.Hedemann. Dzisna i Druja magdeburskie miasta. Wilno, 1934. S.344-366.; Д.Довгялло. Друя – заштатный город Виленской губернии. Вильно, 1908.)




**Герб Сапегаў на зване Друйскай Спаскай царквы. Замалёўка Дз.Струкава. 1864 г.**

У XVIII ст. у горадзе існавала каля 20 храмаў, шэраг з іх фундавалі Сапегі (падрабязней пра гэта: К.Шыдлоўскі. Архітэктурная спадчына Браслаўшчыны. Мн., 1996.). Сярод храмаў фундацыі Сапегаў вылучаецца комплекс бернардзінскага кляштара з касцёлам Св.Троіцы, узведзены ў 1643 –

1646 гадах коштам Казіміра Льва Сапегі (1609 – 1656 гг.). Касцёл Св.Троіцы лічыцца адным з адметных помнікаў архітэктуры ранішняга барока на тэрыторыі Беларусі. Менавіта ў мурах гэтага кляштара ў 20 – 30-я гг. XX ст. існаваў беларускі кляштар айцоў-марыянаў, дзейнічала гімназія, якую скончылі многія выдатныя беларускія дзеячы (падрабязней пра гэта: Памяць. Браслаўскі раён. Мн., 1998. С.263-267.). У Друі ў 1793 г. Сапегі заладжылі пажарную ахову – першую на тэрыторыі Браслаўшчыны (O.Hedemann. Historija powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.359.).

У некаторых публікацыях можна сустрэць звесткі, што да Сапегаў на Браслаўшчыне належалі Дрысвяты. Аднак Дрысвяты да канца XVIII ст.з'яўляліся вялікакняжацкім уладаннем. Разам з велізарным гаспадарчым комплексам – ключом, мястэчка і замак аддаваліся ў часовае "дзяржанне" віленскім ваяводам. Сярод дрысвяцкіх дзяржаўцаў быў у другой палове XVII ст. Казімір Сапега, ваявода віленскі і гетман ВКЛ. Вядомы інвентар Дрысвяцкага ключа 1682 г., у якім утрымліваюцца прадпісанні дзяржаўцы падданым Historia powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.30.).

У час Паўночнай вайны Сапегі, якія падтрымалі шведаў, прыцягвалі сабе на дапамогу жыхароў Друйскага і Іказненскага ўладанняў. Прыцаўнікі Сапегаў спецыяльна разбуралі іх маёнткі ў Браслаўскім павеце. Асабліва пацярпела Друйскае наваколле падчас знаходжання тут аддзелаў Р.Агінскага, старосты жамойцкага, падскарбія ВКЛ, зацятага ворага Сапегаў. Пазней трыбунал Вялікага княства абавязаў Р.Агінскага выплаціць Друі 40 тысяч, а Іказні 50 тысяч фларэнаў у якасці кампенсацыі (O.Hedeman. Historia powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.30 – 32.).

У XVIII ст. Сапегі пачынаюць пазбаўляцца сваіх уладанняў на Браслаўшчыне. Верагодней за ўсё, гэта звязана эканамічнай немэтазгоднасцю. Браслаўскі павет адносіўся да ліку найбольш пацярпелых у войнах XVII – XVIII стст. рэгіёнаў ВКЛ. Першым распрадаецца Іказненскі маёнтак. Напачатку Сапегі здавалі яго асобныя часткі ў арэнду, а потым распрадалі. Друйская латыфундыя і ўласна Друя пераходзяць у іншыя рукі ў пачатку XIX ст.





**Асобнік кнігі казанняў выдадзенай у 1728 г. пры фінансавай падтрымцы Аляксандра Паўла Сапегі (1672-1734), маршалка Выяўлены Міколам Паўловічам (Даўгаўпілс) у рэштках бібліятэкі Ілуксцкага касцёла. Напачатку кнігі змешчаны панегірычныя сачыненні ў гонар Сапегаў, малюнак іх герба «Ліс»**

(O.Hedemann. Historija powiatu Brasławskiego. Wilno, 1930. S.382 – 383.). Вядомы таксама шэраг устаў Сапегаў адносна сваіх браслаўскіх уладанняў. Іх ужывае і аналізуе ў сваіх працах гісторык О.Гедэман. Адзін з самых цікавых дакументаў "Устава на звера" 1643 г. для жыхароў Друйскага маёнтка (O.Hedemann. Dawne puszcze i wody. Wilno, 1934.).

Як буйнейшыя землеўладальнікі, Сапегі мелі значны ўплыў у Браслаўскім павеце. Мясцовая шляхта была ўцягнута ў міжусобіцы, у якіх удзельнічалі магнаты. Напрыклад, у вядомай бітве пад Алькельнікамі 18.11.1700 г. на баку Сапегаў выступіла цэлая браслаўская харугва (O.Hedeman.

У сучасным Браслаўскім раёне спадчына па Сапегах засталіся перадусім у Іказні і Друі. Іказнь – невялікая вёска (124 двары, 305 жыхароў) на ўсходзе раёна, 12 км ад Браслава. На востраве захаваліся абарончыя валы і падмуркі замка. Замчышча даследаваў М.Ткачоў. Падмуркі замка можна было б рэканструяваць і замак стаў бы адным з цікавых турысцкіх аб'ектаў. На месцы драўлянага касцёла, фундаванага Л.Сапегам, узвышаецца мураваны храм 1912 г. У 1627 г. коштам Яна Сапегі ў Іказні будуецца ўніяцкая царква. У XIX ст. царква стала праваслаўнай. У 1906 г. узведзены мураваны будынак, які захаваўся і дзейнічае. У Іказні ёсць школа, размешчаная ў сучасным будынку, але адлік яе гісторыі вядзецца ад 1593 г., часу фундацыйнай граматы Льва Сапегі. Багатай гісторыі мястэчка Іказні, заснаванага Сапегамі, прысвечаны спецыяльны выпуск выдання "Павет" (№ 11 (36), 2004 г.).

У Друі захаваўся былы бернардзінскі кляштар з касцёлам Св.Троіцы фундацыі К.Л.Сапегі, таксама руіны Дабравешчанскай царквы XVIII ст., узведзенай коштам Сапегаў. Часткова зберaглася планіроўка Сапежына з рынкам, сеткай вуліц, сярод якіх была Сапегаўская. У школьным музеі ёсць матэрыялы, прысвечаныя Сапегам. Сапегаўскія матэрыялы прадстаўлены і ў экспазіцыі Браслаўскага гістарычна-краязнаўчага музея.

Заканчэнне, пачатак на с.2

З гэтай пары службы тут адбываюцца штодня: раніцай і ўвечары. У сераду святар праводзіць асобную службу з акафістам Св.Панцеляймона. Храмавае свята адзначаецца 9 жніўня, у дзень шанавання Св.Панцеляймона. Мана-стырская царква адчынена для ўсіх, у каго ёсць патрэбы звярнуцца да Бога. Таксама скіт прымае паломнікаў. 5 чэрвеня ў дзень памяці Святой Ефрасінні Полацкай абіцаль наведаў галава праваслаўнай царквы Беларусі мітрапаліт Філарэт.

У манастыры ёсць некалькі цудадзейных абразоў. Да іх адносяцца абразы Святых Ефрасінні Полацкай і Панцеляймона з часцінкамі іх мошчаў, свяціцеля Мікалая, спіс цудатворнага абраза Божай Маці Уладзімірскай (арыгінал знаходзіцца ў Гарадзенскім манастыры Нараджэння Маці Божай), абраз Маці Божай Казанскай (належаў манахіні Полацкага манастыра Веніяміне, і ў гады вайны адвёў смерць ад некалькіх мірных жыхароў).

У брашуры змешчаны дакладны расклад службаў, якія праводзяцца ў Браслаўскім скіце.

Набыць выданне можна ў царкоўнай лаўцы манастыра.

# Ад цэры да кнігі

## (з гісторыі кніжнай справы)



Выстава пад такой назвай працуе ў памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея. Кніжная калекцыя – адна з цікавых калекцый музея. Яна налічвае больш за 1,5 тысячы выданняў. Пераважную іх большасць складаюць выданні XIX – пачатку XX стст., але ёсць некалькі кніг XVII–XVIII стст. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць рукапісныя кнігі старавераў XIX ст. Але задача выставы не ў тым, каб азнаёміць з гэтай калекцыяй, а каб з яе дапамогай адлюстраваць некаторыя моманты гісторыі стварэння кніг.

Пачынаецца выстава з некалькіх стэндаў, дзе змешчаны рэканструкцыі васковых таблічак і спецыяльных палачак для пісьма. Вядомы гэтыя прыстасаванні з часоў Старажытнай Грэцыі і Рыму. Таблічкі называлі цэрамі (у перакладзе – воск), а палачкі – стылямі (у перакладзе – палачка). Падвойныя таблічкі вядомы яшчэ пад назвай кодэкс (даўблёная калода). Пазней падобным чынам сталі складваць аркушы пергаменту – нарадзілася форма кнігі, да якой мы ўсе прызвычаеныя (напачатку кнігі існавалі ў выглядзе скруткаў папіруса ці пергаменту). Пасля антычнага перыяду таблічкі шырока ўжываліся па ўсёй Еўропе. Часта іх рабілі з буку, вось чаму ў нямецкай мове “бух”, а ў англійскай “бук” азначаюць кнігі. Адсюль і знаёмыя нам словы бухгалтар, гросбух.

На выставе можна ўбачыць таблічкі рымскія, таблічкі з Вялікага Ноўгарада XI – пачатку XIV стст, разнастайныя стылі, у тым ліку чатыры, знойдзеныя на Браслаўшчыне. Прадстаўлены таксама ўзоры берасцяных кніг. Вядома, што бяросту, як пісьмовы матэрыял, шырока ўжывалі ўсходнія славяне.

На адной з вітрын – фрагмент скрутка торы, выкананай у XIX ст. на пергаменце. На пергаменце, вельмі старажытным пісьмовым матэрыяле, і ў больш познія часы пісалі ў яўрэйскіх абшчынах. Пергамент – гэта вельмі старанна апрацаваная скура жывёл (пераважна ягнят і маладых цялят). Цэлая калекцыя скруткаў з тэкстамі на пергаменце і кніг зберагалася ў Друйскай сінагозе. Гэтыя зборы загінулі ў час вайны пры знішчэнні гета.

У абшчынах старавераў яшчэ ў XIX ст. захаваўся звычай перапісваць кнігі, так як гэта рабілі тысячу гадоў таму. У старавераў быў абмежаваны доступ да друкарань. Некаторыя з прадстаўленых на выставе асобнікаў маюць па-майстэрску выкананыя ініцыялы, застаўкі. Друкаваныя кнігі старавераў XIX – пачатку XX стст. мелі вельмі архаічны выгляд – драўляныя вокладкі, абцягнутыя скурай, засцёжкі, цісненне. Такія кнігі нагадваюць аб першых кроках друкавання на славянскіх землях.

На выставе ёсць матэрыялы, прысвечаныя Францыску Скарыне, беларускаму першадрукару, матэрыялы, звязаныя з Друйскім Евангеллем, рукапіснай кнігай XVI ст., якую адносяць да ліку шэдэўраў беларускай кніжнай справы. Выстаўлена факсімільнае выданне 1988 года “Астрамірава Евангелле” – самай старажытнай кнігі ўсходніх славян (палова XI ст.). Дарэчы, гэта выданне каштавала болей за 300 савецкіх рублёў, але адразу ж стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Асобны раздзел выставы прысвечаны пераплётнай справе. Не толькі ў гарадах, але і ў маленькіх мястэчках існавалі майстэрні ці асобныя майстры, якія абнаўлялі пераплёты ў старых кнігах. Дарэчы, у будынку музея, дзе размяшчалася друкарня “Магата”, працавала і пераплётная майстэрня.

На выставе прадстаўлены камплект прылад саматужнага майстра-пераплётчыка з м.Слабодка Ч.Данісевіча. Сваім знешнім выглядам яны нагадваюць прыстасаванні пераплётных майстэрань Еўропы на гравюрах XVI – XVII стст. Выстаўлены ўзоры кніг з адноўленымі пераплётамі. Гэта пераважна малітоўнікі розных памераў.

Некалькі стэндаў займаюць узоры кніг XIX – пачатку XX стст. Для выставы адабраны найбольш прадстаўнічыя выданні з музейнай калекцыі, надрукаваныя ў Вільні, Маскве, Санкт-Пецярбургу, з шыкоўнымі вокладкамі, скуранымі пераплётамі з залатым цісненнем. Здзіўляюць сваёй дасканаласцю некаторыя каляровыя ўклейкі з ілюстрацыямі. Сярод іншага прадстаўлена факсімільная старонка аднаго з выданняў еўрапейскага першадрукара Іагана Гутэнберга (XV ст.).

Раздзел з беларускімі выданнямі ўтрымлівае сціплыя кніжкі-брашуры пачатку XX ст., разлічаныя пераважна на сялянства, і выдатныя ўзоры беларускай паліграфіі канца XX ст., сярод якіх пераможцы міжнародных конкурсаў па афармленню кніг.

# МАГІЧНАЕ КОЛА

Музей традыцыйнай культуры прапануе жыхарам і гасцям горада цікавую канцэптуальную выставу "Магічнае кола". Выстава аб'ядноўвае дзесяткі этнаграфічных і археалагічных прадметаў, якія дазваляюць наблізіцца да разумення незвычайных уласцівасцей кола. Як вядома, кола – адна з асноўных геаметрычных фігур, але не толькі. Шмат у якіх цывілізацыях, у розных народаў нашай планеты кола звязана з такімі паняццямі як бясконцасць, цыклічнасць, вышэйшы ідэал і г.д. Колам адлюстроўвалася сонца, культ якога адзін з самых пашыраных у старадаўніх вераваннях. Кола ў спалучэнні з іншымі фігурамі і сімваламі ўтварае вялікую колькасць разнастайных сімвалічных асацыяцый.



У цэнтры экспазіцыі зроблена сімвалічная кампазіцыя. Над усім – драўлянае кола з чатырма спіцамі (нібы ўпісаны ў кола крыж) так паказвалі сонца, а лініі крыжа адлюстроўвалі 4 накірункі ў сусвеце. Над колам – круглыя жорны, у круглай жа сявеньцы, зробленай спосабам спіральнага, кругавога пляцення – зерне. Гэтыя прадметы звязаны з земляробчым колазваротам. Фон утрымлівае посцілкі, ручнікі з выявамі колаў, стылізаванымі выявамі сонцаў.

А далей па колу можна абысці асноўную экспазіцыю. Кідаецца ў вочы вялікая колькасць колаў як частак розных прылад і механізмаў. Тут і колы ад фурманак, калаваротаў. Усе яны вельмі нагадваюць выявы сонца, якія багата сустракаюцца пры аздабленні адзення, побытавых рэчаў.

Круглую форму маюць праселкі – грузікі для прадзення верацяном. На стэндзе прадстаўлена цэлая калекцыя. Некаторыя праселкі XII – XIII стст., арнаментаваны салярнымі сімваламі.

Салярнымі сімваламі часта аздабляліся прасніцы. Такія прасніцы ёсць на выставе. Асабліва цікавая адна з іх – на паверхні дошкі выразаны колы з загадкавымі сімваламі. Разгадкай гэтых сімвалаў займаліся спецыялісты. Паводле некаторых меркаванняў, на прасніцы змешчаны старадаўні земляробчы каляндар. Прасніца паходзіць з Браслаўшчыны, зберагаецца цяпер у Мінску. На выставе прадстаўлена яе копія.

У асобным раздзеле змешчаны разнастайныя ювелірныя вырабы ранняга сярэднявечча – фібулы, грыўны, пярсцёнкі, засцёжкі, пацеркі, бранзалеты, якія нагадваюць гледачу, наколькі шырока ўжываліся варыянты колаў пры іх вырабе і аздобе.

Ці ўзяць ганчарства. З даўніх часоў ганчар працуе на адмысловым коле. Яго вырабы круглыя, а круглыя донцы часта аздабляліся спецыяльнымі знакамі. На выставе цэлая калекцыя знакаў XI – XIII стст. – колы, падвойныя колы, крыжы, упісаныя ў колы. Па-рознаму трактуюць гэтыя знакі, але ў асноўным як магічныя сімвалы, адлюстраванні сонца, стыхіі агню. Яны павінны былі спрыяць працы ганчара, абараняць хату ад нячыстай сілы.

На выставе даволі многа колавых дэталяў розных механізмаў, не абавязкова старадаўніх. Калі глядзіш на металічнае кола ад механізма фабрычнай вытворчасці, разумееш, што яго форма вызначана толькі тэхналогіяй, але ўражвае, наколькі іх выгляд падобны на старажытныя выявы тысячагадовай даўніны. У гэтым яшчэ адна з магічных уласцівасцей кола.



Завяршаем агляд выставы і зноў стаім перад цэнтральнай экспазіцыяй. Адсюль зноў можна прайсціся па магічнаму колу. Шмат што не заўважанае з першага агляду адкрываецца вачам.

Магія кола бясконцая ў сэнсе пазнання.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Бук

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)